# Рэзананс на артыкул прафесара М. Крукоўскага "Встаньте на сторону истины" ("Народная воля", 15 мая)

## Пра "бакі ісціны" і этыку

Адкрыты ліст доктара філасофскіх навук, прафесара, былога старшыні Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі Мікалая Крукоўскага яго Высокапраасвяшчэнству мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму, экзарху ўсяе Беларусі Філарэту, мяркуючы па ўсім, а найперш па рэдакцыйнай прадмове да публікацыі, з'яўляецца не столькі зваротам да ўладыкі Філарэта, колькі заклікам да публічнага абмеркавання сучаснага стану Праваслаўнай Царквы Беларусі.

Відаць, не самае лепшае пры гэтым, што ад пачатку рэзка і нават ваяўніча акрэсліўся пэўны "бок", ад імя якога выступае прафесар Крукоўскі і які, дарэчы, у розных формах выказваў ужо свае погляды неаднойчы. Але, як вынікае з загалоўка ліста, самадастатковай такая пазіцыя пакуль што не ўсведамляецца. І правільна, паколькі, дзякуй Богу, яшчэ не вынішчана дарэшты іншае бачанне ролі Царквы ў сучасным грамадстве, а таксама разуменне Ісціны, якая ўсё ж такі існуе незалежна ад зменлівых, шматлікіх і часцей за ўсё зваджаных палітыкамі "бакоў".

Пры гэтым хочацца верыць, што рэдакцыя "Народнай волі", друкуючы названы ліст і запрашаючы да яго абмеркавання, шчыра жадала шукаць шлях да Ісціны, паразумення, міру, згоды і братняй любові, а значыць — можна чакаць належнай павагі таксама да меркаванняў, якія зыходна адрозніваюцца ад выказаных аўтарам і публікатарамі тэксту "Станьце на бок ісціны".

Вызначымся адразу: мы, прадстаўнікі навуковай і творчай інтэлігенцыі рэспублікі, — не з тых, хто "адчувае незадаволенасць у сваіх кантактах з Царквою, знаходзячы іх альбо фармальнымі, альбо няпоўнымі, альбо — яшчэ горш — няшчырымі"; для нас паняцце Царквы ўключае перш за ўсё містычнае Цела Хрыстова і свяшчэнныя традыцыі рода-народа, з якога вераю Праваслаўнай вылучыліся Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Афанасій Брэсцкі і ўвесь сонм святых, што ў зямлі беларускай праззялі, а таксама і народ цяперашні, які зносіць жорсткія выпрабаванні, ды ў будучыню ідзе ўсё ж такі не абязвераным; адпаведна, у сваіх кантактах з гэтай Царквою "моду", фармальнасць, няшчырасць мы лічым за кашчунства, хоць і не выключаем сябе з шэрагу пахваленых загадзя ў рэдакцыйнай прадмове людзей, "якія думаюць і шукаюць". Якраз таму лічым за верніцкі і грамадзянскі абавязак выказаць свае адносіны да гэтай публікацыі, спадзеючыся, што пэўная частка чытачоў "Народнай волі", нават калі не падзяляе нашых поглядаў, можа іх зразумець.

Вядома, у кожнага ёсць права на сваё меркаванне. Але ёсць таксама правілы, пісаныя і няпісаныя, як сумленна і прыстойна выказацца пры намеры не проста нарабіць шоламу, а наблізіцца да Ісціны.

У сувязі з гэтым асабліва прыкра, што аўтар адкрытага ліста — носьбіт высокіх ступеняў і званняў, прадстаўнік карпарацыі педагогаў вышэйшай школы, верхняга слою гуманітарнай інтэлігенцыі — чамусьці праігнараваў усе згаданыя правілы пры звароце да першаіерарха Беларускай Праваслаўнай Царквы, узяўшы недапушчальны тон ментара, бесцырымонна ўрываючыся ў сферу, якую сам лічыць чужой, катэгарычна выказваючыся па тых пытаннях, што патрабуюць тэалагічнай падрыхтоўкі хоць крыху большай, чым гэта прадугледжвалася аб'ёмам курса "навуковага атэізму", а таксама і чагосьці, не закладзенага праграмамі марксісцка-ленінскай этыкі.

Вядома, ад прафесара Крукоўскага як чалавека свецкага і расцаркоўленага нібыта і нельга патрабаваць, каб ён ведаў, што ніколі не было і няма пакуль "расійскай праваслаўнай царквы", а ёсць Руская, каб разабраўся ў сутнасці кананічных адносін паміж епархіямі і Патрыярхатам яе, не карыстаўся прастадушна-даверліва прымітыўным і моцна збітым клішэ посткамуністычнай прэсы — "няшчасце афіцыйна падпарадкоўвацца Маскве", каб засвойваў адрозненні ў царкоўнай іерархіі, ужываў правільныя формы тытулавання мітрапаліта, каб не блытаў "священнический сан" з епіскапскім, каб не прыпісваў "патрыяршага служэння" патрыяршаму экзарху... Але гэта, падкрэслім, не дробязі, бо ў іх адлюстроўваецца агульны ўзровень дасведчанасці савецкага філосафа ва ўсіх тых пытаннях, якія ён з вялікай лёгкасцю і не меншай амбітнасцю ўзяўся вырашаць.

Каб не быць галаслоўнымі, звернемся непасрэдна да асноўных "багаслоўскіх" практыкаванняў Мікалая Ігнатавіча. Так, згадаўшы вядомае выказванне апостала Паўла наконт улады, ён бярэцца давесці "адуранаму" люду, што апостал павінен сказаць пра цяперашнюю нашу ўладу. Прычым робіць гэта з такой безаглядднасцю, што агаворка "бяру на сябе грэх" успрымаецца толькі як стылёвы прыём, а не грэхабаязнасць, пра якую недапушчальна забывацца хрысціяніну. Асабліва калі выказваешся за святога апостала, ігнаруючы святасць Паслання і скажаючы яго змест да адваротнага. У сапраўднасці апостал сцвярджаў і наказваў (у тым ліку нам, цяперашнім): "Кожная душа няхай скараецца вышэйшым уладам... Таму той, хто супраціўіцца ўладзе, супраціўіцца Божаму пастанаўленню; а тыя, што супрацівяцца, самі наклічуць на сябе асуджэнне... Хочаш не баяцца ўлады? Рабі дабро..." [Рым, 13, 1—3]. А параўнальна-гістарычны аспект, які скарыстоўвае, нібыта дзеля самай большай пераканаўчасці, аўтар адкрытага ліста, нам не дазваляе абмінаць наступную акалічнасць: свой зварот апостал пісаў у часы Нерона — таго самага душыцеля хрысціянства, чыё імя на два тысячагоддзі стала змрочнапамятным. З гістарычнымі паралелямі канфуз у М.І.Крукоўскага выходзіць таксама і пры згадцы патрыярха Гермагена, які акармляў Царкву ў часы не "жахлівых нашчадкаў Івана Грознага", а Лжэдзмітрыя І, цара Васілія Шуйскага, Уладзіслава, Ілжэдзмітрыя ІІ. Да таго ж, пры "хістаннях" і "смутах" ён якраз паслядоўна трымаўся таго, што зусім не падабаецца прафесару Крукоўскаму, — напрыклад, і не меўшы згоды з Шуйскім як царом пераконваў народ стаяць за яго ў час паўстання Балотнікава. У адным патрыярх Гермаген быў паслядоўны — стаяў за веру Праваслаўную, супраць іншаземцаў. Прынцып гістарызму, які, дарэчы, лічыўся важным і ў савецкай навуцы, аўтарам адкрытага ліста праігнараваны чамусьці і ў тых пасажах, дзе ацэньваюцца патрыярх Ціхан, Карлавацкі раскол. Асабліва ж тады, калі выносіцца безапеляцыйны прысуд: "Расійская праваслаўная царква... адышла ад сапраўды хрысціянскага шляху".

Уласна, змест публікацыі ніякіх доказаў на гэты конт не дае. Пераканаўча выяўляе іншае: прафесар Крукоўскі сам адышоў ад Праваслаўнай Царквы, цураецца яе, знайшоўшы, як ён ганарліва сцвярджае, "свой уласны шлях да Бога". Што ж, гэта праява свабоды сумлення, асабістага выбару. Толькі не варта выдаваць яе за абсалют, лічыць распаўсюджанай больш, чым гэта ёсць у рэальнасці, забывацца на існаванне шчырых праваслаўных вернікаў, а тым больш ігнараваць свядома іхнія правы самім вырашаць праблемы сваёй Царквы.

Не лішне звярнуць увагу яшчэ вось на які момант: спяшаючыся публічна заклікаць Праваслаўнага Іерарха да супрацьпастаўлення ўладзе, выкладчык Універсітэта культуры, відаць, не паспеў абнародваць такі ж самы заклік да свайго непасрэднага начальства — дэкана, рэктара, міністра. Апроч усяго, ён, як быццам, уводзіць у норму тое, што праваслаўная грамадскасць, напрыклад, павінна правакаваць пастыраў і лідэраў іншых канфесій — католікаў, пратэстантаў, мусульман, іудзеяў — і рашуча патрабаваць, каб яны сталі ў апазіцыю да прэзідэнта і ўлады.

Адкрыта кажучы, нам цяжка зразумець, чаму спадара Крукоўскага, які нядаўна шчыраваў як актывіст адраджэння уніі, падпісваў лісты да папы рымскага, гэтак хвалюе стан менавіта Праваслаўнай Царквы. Тым больш што пазіцыя, ім занятая, увогуле — як бы над царкоўнымі структурамі, над уладаю і нават над народам, якому даюцца характарыстыкі такога кшталту: "адурненыя прапагандай слаі насельніцтва", "убогі, амаль "быдлячы" — целам і духам — стан", "бязмоўнае быдла"...

Мяркуючы па ўсім, якраз верхаглядства шкодзіць найбольш аўтару адкрытага ліста. Бо з вышыняў, ім занятых, паводле традыцый, укаранёных за папярэднюю эпоху, усё разглядаецца не інакш як дзеля змагання, гэта значыць той самай "перманентнай рэвалюцыі", у імя "будаўніцтва светлай будучыні", чарговага раю на зямлі, прычым абавязкова ў глабальным маштабе. Канкрэтыкі адтуль проста не бачна, тады як менавіта ў канкрэтыцы і ў поўным змесце неабходна разглядаць усё, што спадар Крукоўскі мімалётам згадвае: і падзеі Свяшчэннай гісторыі, і пакутніцкі шлях Рускай Праваслаўнай Царквы розных часоў, і кананічныя адносіны Экзархата з Маскоўскім патрыярхатам, і рэальныя дачыненні Царква — дзяржава, Царква — грамадства, і паводзіны тых ці іншых асоб, якія прадстаўляюць адпаведныя сферы быцця і структуры. Аніяк не паддаецца ўсё гэта тлумачэнням паводле сумнавядомай метадалогіі "кароткага курса УКП(б)", якой прафесар Крукоўскі, на жаль, трымаецца, спрабуючы развіваць у новых гістарычных умовах, не без пэўных поспехаў.

Стан, да якога аўтар ліста захоплена імкнецца, праваслаўнае багаслоўе азначае царкоўнаславянскімі паняццямі "суемудрие" і "прелесть", што на беларускую мову можа быць перакладзена прыблізна як "марнамысленне" і "спакуса". Гэта звычайна выяўляецца ў нежаданні зважаць на сапраўдны стан рэчаў, аднак прысвойваць сабе права — абранніцкае! — судзіць усіх і ўсё.

Але чым бы ні абумоўліваліся асабістыя намеры кожнага з нас, няма апраўдання спробам — якія, зрэшты, робяцца не адным спадаром Крукоўскім — уцягнуць Царкву ў палітычныя баталіі, загадзя вызначыўшы прыватную і часовую "ісціну", асабіста вылучыўшы "чыстых" і "нячыстых", ды яшчэ катэгарычна патрабаваць: "Станьце на гэты бок".

У Царквы, як было, так і засталося — правам і абавязкам — маліцца штодзённа "о стране богохранимой нашей, властех и воинстве ея", а гэта азначае — хацець і прасіць міру, згоды, паразумення ў грамадстве.

Самым уразлівым, бадай, у тэксце за подпісам М.І.Крукоўскага з'яўляецца абвінавачванне, чаму ўладыка Філарэт "не ўзвысіў свой голас супраць... жорсткасці", калі "міліцыя і АМАП страшна збівалі... мірных грамадзян". Але тут, незалежна ад інтэрпрэтацыі саміх падзей, варта мець на ўвазе галоўнае: Царква і мітрапаліт нікога не пасылалі ні з дубінкамі, ні пад дубінкі. Наадварот, нязменна, у тым ліку і напярэдадні гэтых падзей (канкрэтна: у Пасланні на Раждаство Хрыстова) малітоўна падавалі свой голас: "слава в вышних Богу, и на земли мир, в человецех благоволение". Усім прыкра і балюча, што да крыві дайшло ў змаганні беларусаў з беларусамі. Толькі віна за гэта ляжыць на палітыках, прычым не аднаго "боку".

А яшчэ нельга не згадаць словы Евангелля наконт "сучка ў воку брата" (Мф, 7, 3), калі М.І.Крукоўскі рашуча асуджае "партнаменклатуру", а сам — відаць, не без намеру падкрэсліць сваю грамадскую значнасць — падпісваецца тытулам якраз партыйнага наменклатуршчыка: "былы старшыня... партыі".

Мы шкадуем, што ў нашай краіне празмерна зацягваецца сезон ідэалагічна-цыркавых імпрэз. Яшчэ больш нам шкада, што ў гэтых мерапрыемствах бярэ ўдзел навуковец і педагог, з імпэтам прымаючы на сябе ролю няўдзячную ды і, здаецца, яму не ўласцівую.

Бо, зрэшты, нельга абмінуць і той абзац у тэксце ліста, дзе гаворка заводзіцца пра сорам. Таму хочацца верыць, што проста "нячысты аблытаў", спакусіў Мікалая Ігнатавіча. І выйшла тое, што доктар філасофіі сваімі словамі азначае так (перадаем амаль літаральна): замест таго, каб адпаведна сану і ўзросту мітрапаліта паважліва звярнуцца да яго публічна, з пагардліва-панібрацкай ухмылкай аклікае яго і загадвае: станьце туды, дзе я вызначаў.

Магчыма, для палітыкаў і партнаменклатуры падобнае дапушчальна. Ім відней. Хоць, усё роўна, са сваімі статутамі ў чужы манастыр не ходзяць. Гэта традыцыйная мудрасць. І самае элементарнае правіла этыкі.

**І.А.ЧАРОТА, загадчык кафедры славістыкі БДУ, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, літаратар;**
**Я.М.БАДРОЎ, дацэнт Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, кандыдат філасофскіх навук;**
**М.П.КЕНЬКА, дацэнт БДУ, кандыдат філалагічных навук;**
**Ніна ЗАГОРСКАЯ, пісьменніца;**
**І.В.НОВІКАЎ, выкладчык філасофіі;**
**Н.М.ЛАКІНА, выкладчыца фізікі;**
**А.В.ОСІПАВА, кандыдат медыцынскіх навук, урач-алерголаг "ДПмедсерыі МТЗ";**
**В.А.ЦЯПЛОВА, кандыдат гістарычных навук, дацэнт БДУ;**
**Л.Н.ТУРБІНА, старшы навуковы супрацоўнік інстытута літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, паэтэса.**

## Церковь не должна поддерживать власть, у которой нет памяти

В газете "Народная воля" опубликована правильная и своевременная статья профессора Николая Круковского под заглавием "Встаньте на сторону истины". Во всем мире 1997 год признан трагическим юбилейным годом примирения и памяти жертв сталинских репрессий. Однако у нас ни президент, ни Верховный Совет, ни правительство, ни даже церковь не подали своего голоса об этом и ничего не сделали. Не есть ли это самый большой грех перед невольно пострадавшими жертвами — живыми и мертвыми?

А ведь от сталинской тирании погибло более двух миллионов человек в Беларуси, в том числе очень многие служители культа, которые были расстреляны или уничтожены в ГУЛАГе. Точные данные все еще хранятся в закрытых архивах КГБ.

Раньше церковь стояла на стороне обиженных и угнетенных, поддерживала бедных и нищих и не поддерживала государственную власть, которая творит произвол и распоряжается грязными и нечестно нажитыми деньгами.

В нашей республике, где президентом и его правительством делается немало по уничтожению белорусского языка, культуры, истории, насаждается авторитаризм, возвращаются административные методы управления, его Преосвященство митрополит Минский и Слуцкий, эрзарх всея Беларуси Филарет поддерживает нашего президента, который вернул большевистскую символику и тянет нас в старое болото к отжившему призраку коммунизма.

Характерный пример. От сталинских репрессий в Республике Беларусь погибло больше людей, чем при чернобыльской катастрофе, чем во время афганской войны. Однако в память о погибших от сталинских репрессий правительство даже не воздвигло памятник, нет и музеев, мемориалов, не создан фонд для пострадавших в те далекие годы. Разве это не кощунство? А почему бы нашему президенту не переименовать какой-нибудь фонд в фонд пострадавших от сталинских репрессий?

Ни президентом, ни церковью не принято решение об установлении Дня памяти жертв сталинских репрессий, тогда как в России этот день установлен.

До настоящего времени нашим правительством не установлена материальная компенсация к пенсии тем лицам, которые в детстве пострадали от сталинизма. А их-то осталось менее пяти тысяч человек. Это те, у которых были расстреляны или погибли отцы. Кстати, доплачивают только тем, которые высылались с родителями в лагеря или на поселения. А разве те и другие не одинаково пострадали от государства? Хотя "забота" уже проявлена, так как 3 марта 1997 года издано постановление №04-3-358 об отмене 50-процентной скидки за оплату квартир, телефона, коммунальных услуг, пользование электроэнергией (...) реабилитированным жертвам сталинских репрессий и другим категориям лиц. Разве это не кощунство?

Не есть ли это самый большой смертный грех и вина перед мертвыми и живыми жертвами сталинских репрессий, законом и Богом?

**Виктор КРУКОВСКИЙ, член Белорусской ассоциации жертв политических репрессий.**

## Взглянем на всё открытыми глазами...

С 988 года Православная Церковь играет огромную роль в жизни восточных славян. За свою тысячелетнюю историю она познала все — и взлеты, и падения. Русские государи отводили православию большое место в своей имперской политике. Стоит только вспомнить вклад Церкви в русификацию белорусских земель в XIX веке и желание превратить их в Северо-Западный край.

Верой и правдой служила Русская Православная Церковь Российской империи, пока не грянул 1917 год, а за ним и гражданская война. Это было время больших испытаний для всего народа. Православное духовенство было дезорганизовано — одни играли пассивную роль сторонних наблюдателей, другие открыто перешли на сторону "белого движения", третьи погибли под пулями "воинствующих безбожников".

После войны Русская Православная Церковь не смогла сохранить своего единства. Эмигранты, потоком хлынувшие из России в Китай, Францию, Англию, Австралию, США, строили на новом месте своего пребывания православные храмы. Так возникла зарубежная ветвь Русской Православной Церкви.

В СССР в это время шло наступление на религию: ссылали и расстреливали священнослужителей, взрывали храмы, выбрасывали из церквей и монастырей мощи святых, продавали на Запад за бесценок тонны церковной утвари. Но веру народа в Бога они вытравить так и не смогли. В конце 20-х Русская Православная Церковь официально признала власть большевиков, которую до этого считала сатанинской. Правда, пошли на этот шаг не все. Часть священнослужителей образовала Истинную Православную Церковь, или, как ее еще называли, катакомбную, которая не признала власти большевиков. Но численность ее сторонников была ничтожно мала.

В начале 30-х годов большевики скорректировали свое отношение к православию, перейдя от тактики "воинствующего атеизма" к более умеренной его форме. Это явилось следствием того, что советская власть осознала бесплодность попыток превратить СССР в стопроцентно атеистическое государство и решила пойти другим путем. Этот "путь" осуществляли органы госбезопасности. Над Церковью был установлен тотальный контроль. Со священнослужителями проводились "доверительные" беседы, их склоняли к сотрудничеству. И многие шли на это сотрудничество. Некоторые служители культа забывали даже о тайне исповеди, регулярно информируя органы о "грехах" своих прихожан. Правда, бывали случаи, когда это помогало словить преступников, что ни в коей мере не снимает ответственности с тех священнослужителей, которые нарушали тайну исповеди...

Эти 70 лет советской власти были не лучшими для Русской Православной Церкви. С одной стороны, официальная политика атеизма привела к тому, что было закрыто или разрушено большинство храмов, подверглись репрессиям многие священнослужители, в несколько десятков раз уменьшилась численность прихожан; с другой — эта политика коммунистического режима вела к постепенной деградации внутри самой церкви.

Отношение к религии начало меняться с середины восьмидесятых годов, когда КПСС объявила в стране перестройку. Гласность привела к тому, что люди узнали правду о преступлениях коммунистических вождей против собственного народа. Вера в советскую власть и светлое будущее исчезала вместе с продуктами на полках магазинов. Но человеку необходимо во что-нибудь верить. И многие люди начали обращаться к Богу, ища спасения от социальных невзгод в церкви. Власти не мешали этому процессу — атеизм перестал быть официальной идеологией. И если раньше патриархов приглашали в Кремль только когда отправляли в "последний путь" очередного генерального секретаря, то во времена перестройки лидеры компартии и Церкви начали встречаться "вживую". В 1988 году государство даже помогло Русской Православной Церкви с помпезностью отметить тысячелетие Крещения Руси.

Церковь быстро освоилась со своим новым предназначением. Ведь, как известно, новое — это хорошо забытое старое. В храмах священнослужители призывали народ к покаянию, при этом совершенно забыв о своих грехах. Церковь демонстративно не хотела замечать "бревна" в своем глазу. Те же, кто вспоминал о грехах самой Церкви, подвергались репрессиям. Так был лишен сана известный диссидент и священнослужитель отец Глеб Якунин, а на последнем Синоде он вообще был отлучен от Церкви и предан анафеме...

Развал СССР в 1991 году принес Русской Православной Церкви как много положительного, так и отрицательного. Положительное то, что православие в России и других республиках, входящих в состав Советского Союза, практически стало государственной религией, оттеснив на второй план все остальные вероисповедания. Ни одна крупная презентация, ни один праздник, ни одно подписание договора не обходятся без присутствия православных священников. Все политические деятели стараются почаще бывать в храмах, прилюдно демонстрируя свою религиозность. Это в полной мере относится и к левым, и к правым, т.к. новые коммунистические лидеры, отказавшись от политики атеизма, в один момент превратились в глубоко верующих людей. Доходит просто до абсурда, когда на митингах левых портреты душителей православия Ленина и Сталина соседствуют со святым ликом Христа и образами святых мучеников за веру, а призывы к новой революции и восстановлению сталинского режима перемешиваются с поздравлениями народа с очередным православным праздником. Но Церковь снисходительно смотрит на это, стараясь не замечать откровенных метаморфоз.

Распад СССР и так породил много проблем для Московской патриархии. Это в первую очередь — сепаратизм внутри самой Церкви. Так, на Украине сейчас фактически действуют две православные церкви. Одна из них признает главенство Москвы (Московский патриархат), другая — нет (Киевский патриархат). На одном из заседаний Синода Русской Православной Церкви патриарх всея Украины, не признающий над собой власти Московского патриарха, был отлучен от Церкви (вместе с Глебом Якуниным).

Сложная ситуация сохраняется и в Эстонии. Там часть верующих и священнослужителей при поддержке властей объявили о своем желании подчиняться Патриарху Константинопольскому, а не Московскому.

Высшее духовенство Русской Православной Церкви не без основания полагает, что все эти действия являются следствием распада единой советской империи. И стремление некоторых служителей церкви новых суверенных республик объявить о своей независимости от Москвы (автокефальности) может продолжиться. Поэтому Московский патриархат всячески поощряет и благословляет идею о новом объединении в единое государство, поддерживая разные, порой противостоящие друг другу силы, выступающие за такое объединение. С одной стороны, их можно понять: они стремятся сохранить единство Церкви, но с другой — нельзя забывать, куда ведет дорога, вымощенная благими намерениями, ведь порой Церковь поддерживает откровенно темные силы.

Огромной благосклонностью со стороны православного духовенства пользуется Александр Лукашенко, человек, который, как говорят, не боится ни Бога, ни черта, ни праведного гнева собственного народа. Патриарх всея Беларуси Филарет поддерживает каждый шаг белорусского президента: главное, чтобы он продолжал свою "интегристскую" политику.

Стыдно и больно было смотреть, как глава православных Беларуси после референдума, который был проведен с тысячью нарушениями, фактически освятил новую Конституцию, в которой все главы и разделы можно свести к двум статьям: Статья 1. Президент всегда прав. Статья 2. Если Президент не прав — смотри Статью 1. А ведь многие в этот день молились, прося у Бога только одного: "Отче наш... помоги нашей родной Беларуси стать поистине цивилизованной страной..."

**Дмитрий АНТИПЕНКО, православный.**

*Минск.*

## Беларусы, маліцеся свайму Богу!

М.Крукоўскі лічыць малафеевых беларускімі камуністамі. Ну што Вы, прафесар! Яны ніколі не былі камуністамі, тым больш беларускімі. Дзе Вы бачылі, каб малафеевы, слюнькковы, кебічы і іншыя лідэры партнаменклатуры служылі калгаснікам і рабочым, інжынерам і настаўнікам, абаранялі іх інтарэсы, аддавалі лепшае ім? Яны народ трымалі ў страху і хлусні, ператваралі ў маўклівае быдла. Права кіраваць грамадствам і прадпрыемствамі беспартыйным не давалі. Нас чакала адно — пакорнасць волі малафеевых, вечнае прыгонніцтва!

А што зрабілі "беларускія камуністы" (параўнайце іх, напрыклад, з рускімі ці польскімі!) з нашай краінай, нашай мовай? Шчыра кажучы, яны ніколі не былі беларусамі. Ім і сёння брыдкай здаецца наша мова, нашы песні, нават само імя "беларус". Каб зрабіць кар'еру, многія з іх жаніліся, зыходзячы з кан'юнктурных інтарэсаў. Яны ніколі не змагаліся за дзяржаўнасць Беларусі, яе свабоду і незалежнасць. Наадварот, ахвотна здзяйсняючы планы вялікарускіх шавіністаў і фашыстаў, праводзілі палітыку асіміляцыі і русіфікацыі нашай нацыі: беларусаў цэлымі вёскамі гналі ў Сібір і на Поўнач, на Далёкі Усход і ў Казахстан, а ў нашы гарады на кіруючыя пасады назначалі іншамоўных зладзюг; нашу мову практычна забаранілі, стварыўшы ўмовы для яе выміранне, а ўкаранілі ў Беларусі нязвыклую нам, чужую нашай душы рускую мову.

Такім чынам, малафеевы — гэта не беларускія камуністы. Гэта здраднікі і злачынцы, верныя апрычнікі Расійскай імперыі. Менавіта таму з імі заадно ўсе, прабачце, філарэты і Руская Праваслаўная Царква (РПЦ).

Вы сароміце Філарэта за тое, што ён служыць не столькі Богу, колькі малафеевым, слюньковым і іншым кесарам. Нельга не здзіўляцца, прафесар, Вашай палітычнай наіўнасці! Зазірніце ў гісторыю: РПЦ — маці Расійскай імперыі, яе духоўная аснова. Вось чаму РПЦ насмерць змагаецца супраць узнікнення новых нацыянальных рэлігій, якія б прапаведвалі ідэю незалежнасці сваіх нацый, іх божае права на дзяржаўнасць — першую неабходную ўмову вечнага існавання карэнных народаў! Такім чынам, для РПЦ галоўнае не Бог, а вышэйшыя інтарэсы Расійскай імперыі: асіміляцыя нярускіх народаў і далучэнне іх зямель да Расіі. Так было, так ёсць і так будзе, пакуль існуе імперыя! Менавіта таму іерархія ўлады ў РПЦ пабудавана на манархічным прынцыпе, а не на дэмакратыі і выбарнасці, як, напрыклад, у евангелістаў, іегавістаў, прэсвітарыянскай і метадысцкай цэркваў і іншых больш прагрэсіўных рэлігій і рэлігійных вучэнняў. Паглядзіце на вярхушку РПЦ: гэта царская вяльможы, з ног да галавы ў золаце і саеце. А ў якіх "скромных" лімузінах катаюцца "слугі божыя", у якіх жывуць харомах! І ўсё гэта на грошы адурманеных і ашуканых беларусаў! І Вы, прафесар, звяртаецеся да іх сумленнасці і маралі? Там, дзе кесары і філарэты — там раскоша, там інтрыгі і здрада, там Зло і Хлусня! Малафеевы губяць вучэнне марксістаў, філарэты — запаведзі Бога! І народ — вось парадокс прыроды — ім гэта дазваляе, выбіраючы ў дэпутаты, аддаючы ім нізкія паклоны. Гэты факт наводзіць на сумную думку, што нам яшчэ спадабаецца быць быдлам, якому кавалак сала даражэй за родную мову і хочацца не ведаў і культуры, а гарэлкі і ласкі начальства. І ў гэтай сітуацыі сароміць Філарэта за службу кесарам і злу — што папракаць сляпога ў няўбачанні зорак ці наш народ за вынікі рэферэндуму. Усё вытлумачальна і заканамерна. Усяму ёсць падставы.

Вы заклікаеце Філарэта вярнуцца на шлях Хрысціянскай ісціны. Прафесар, не лунайце ў аблоках! РПЦ заўсёды была дзяржаўнай рэлігіяй. І таму служыла перш за ўсё не Хрысціянскай, а кесаравай ісціне, манархіі. Асабліва яскрава гэта праяўляецца сёння, калі прыгнечаныя, несвабодныя народы свету (чэчэнцы, якуты, курды і інш.) сталі адчуваць сваю роўнасць з народамі-валадарамі і робяць першыя крокі да сваёй незалежнасці і дзяржаўнасці. Якраз адсюль і вынікае непазбежнасць распаду Расійскай (і любой іншай) імперыі — кангламерату розных народаў, якія толькі і мараць вызваліцца з-пад іга русіфікацыі і стаць на шлях нацыянальнага адраджэння, стаць роўнымі сярод роўных! Гэта добра разумеюць і бачаць рускія нацыянал-патрыёты і РПЦ. Таму ў іх задача сёння агульная і як ніколі важная — хутчэй асіміляваць і распыліць нярускія народы, спыніць іх нацыянальна-духоўнае адраджэнне і тым самым — канчатковае драбленне сваёй імперыі. Хрысціянская ісціна, наадварот, тут ім вельмі перашкаджае, бо вучыць, што ўсе нацыі роўныя перад Богам і таму маюць права на дзяржаўнасць і вечнае існаванне; што няма нацый арыйскіх ці пануючых, прызваных Богам кіраваць іншымі нацыямі, грабіць і асіміляваць іх, і нацый-ізгояў, праклятых Богам і наканаваных на асіміляцыю і выміранне. Такім чынам, **Бог вучыць, што беларусамі павінны правіць беларусы, украінцамі — украінцы, казахамі — казахі, якутамі — якуты...** А хіба гэты божы закон міжнацыянальных адносін даспадобы рускім шавіністам і фашыстам, якія з малаком маці ўсмакталі права ўладарыць над іншымі народамі і нажывацца за кошт іх прыродных рэсурсаў? І ні адзін мітрапаліт, тым больш экзарх РПЦ, не стане ў сваіх пропаведзях славіць вучэнне Бога аб роўнасці і вечнасці нацый, грэшнасці асіміляцыі і русіфікацыі нярускіх народаў, і ў прыватнасці беларусаў! А стане — яго спасцігне лёс Аляксандра Меня. Таму заклікаць Філарэта "вярнуцца" на шлях Хрысціянскай ісціны, дзе ён ніколі й не быў, — узводзіць у зман веруючых беларусаў: для РПЦ кесар вышэй за Бога! Вядома, на справе.

І нарэшце галоўнае, што вынікае з Вашага пісьма Філарэту. Гэта наступныя думкі: калі ёсць РПЦ, то чаму не павінна існаваць, для прыкладу, Украінская і Беларуская праваслаўныя цэрквы? Чаму руская нацыя і дзяржава маюць сваю духоўную аснову, сваіх філарэтаў, а мы — не? Дзе ж тут роўнасць народаў перад Богам і мудрасць прыроды? Дзе тут духоўная і нацыянальная справядлівасць?

Каб знайсці адказы на гэтыя пытанні, я стаў цікавіцца гісторыяй узнікнення рэлігій свету, прычынамі, якія прыводзяць да нараджэння ўсё новых рэлігійных канфесій і вучэнняў. І прыйшоў да вываду, што рэлігіі ствараліся, нараджаюцца і будуць узнікаць на ўсіх этапах развіцця нашай цывілізацыі як патрэбнасць індывідуумаў, нацый і дзяржаў у духоўным забеспячэнні свайго выжывання ва ўмовах непазбежнасці смерці ўсяго жывога, непрадказальнасці будучыні, пастаяннай барацьбы Дабра са Злом, бясконцай фізічнай і духоўнай розніцы людзей і іх усёпаглынальнага эгаізму, якія й нараджаюць жорсткую канкурэнцыю за лепшае жыццё, за ўладу народа над народам, чалавека над чалавекам і ў выніку — сацыяльную і нацыянальную несправядлівасць і вечную цягу да Бога — сімвала Збавіцеля, Справядлівасці і Дабра! І чым больш развіваліся навука і грамадскія адносіны, тым больш алагічнымі і ўстарэлымі станавіліся галоўныя пастулаты і дактрыны кожнай рэлігіі. Гэта, у сваю чаргу, стварала перадумовы для непазбежнага іх удасканалення ці замены новымі, навукападобнымі парадыгмамі, для паяўлення больш гібкіх у адносінах да адкрываемых законаў Сусвету і грамадства галін і адросткаў генеалагічнага "дрэва рэлігій".

Такім чынам, самой прыродай развіцця грамадства "дрэву рэлігій" прадпісана вечна расці і квітнець, забяспечваючы духоўныя патрэбнасці як кожнага чалавека ці групы людзей, так і кожнай нацыі, дзяржавы і цывілізацыі ў цэлым. А раз так, то і мы, беларусы, на "дрэве рэлігій" павінны мець сваю галінку — **Беларускую Веру, якая будзе служыць духоўным падмуркам маладой краіны і маральна-этычным кодэксам кожнага беларуса, стане нацыянальна-дзяржаўнай рэлігіяй Беларусі.**

З такімі марамі і думкамі я стаў хадзіць у царкву. Я стаў маліць Бога надзяліць беларусаў пачуццём нацыянальнай самасвядомасці і годнасці, шчырай любоўю да роднай краіны і мовы, усяліць у іх душы імкненне да яднання і нацыянальна-духоўнага адраджэння, даць розум і мужнасць прэзідэнту спыніць русіфікацыю свайго народа...

Да маіх малітваў сталі прыслухоўвацца. І аднойчы мне шапнулі: "Белорус, уходи отсюда. Здесь нет твоего Бога!" І я зразумеў, што філарэты — ворагі нашай мовы, нашай дзяржаўнасці, нашай нацыі, што наш Бог — не араб Магамет, не кітаец Буда, не яўрэй Хрыстос... Я адчуў, што наш Бог — беларус. Ён — душа і мудрасць нашай нацыі, яе мова і песні, яе шчасце і беды, яе лёс. Ён нас абараняе і натхняе, прабачае і карае, падтрымлівае і ўзвышае. Ён жыве ў кожным беларусе, у кожнай нашай песні, у кожным вершы нашых паэтаў. Ён кожнага з нас любіць бясконца і чакае, калі мы звернемся да Яго з малітвамі і прыслухаемся да Яго мудрых парад...

Гэта адкрыццё Бога раскрыла сэнс майго жыцця і заклікала мяне самаадданa служыць нацыянальна-духоўнаму яднанню беларусаў.

Так я сустрэў нашага Бога і стаў сапраўды веруючым. За гэта шчырае Вам дзякуй, "Народная воля" і Мікалай Ігнатавіч!

**Пётр КАСЦЮКОВІЧ, кандыдат геолага-мінералагічных навук, дацэнт.**

## ...Но всё исправимо, пока мы

Я знаю Вас, Николай Игнатьевич, как серьезного ученого уже много лет. Была на защите Вашей докторской диссертации, сочувствовала, читала Ваши труды по эстетике, воспринимала Вас как вдумчивого философа, интеллигента. И вдруг это странное, исполненное нетерпимости, раздражения письмо-поучение в адрес Патриаршего экзарха всея Беларуси митрополита Филарета. Я уже не одно десятилетие в Православной Церкви, знаю ее историю не только по документам и литературе, но и жизни изнутри. Христианка по убеждениям. Вот с этих позиций и не могу не откликнуться на написанное Вами.

Начну по порядку. Вы с негодованием поучаете митрополита достоинству сана: "Стыдно, что Вы позволяете так унижать свое человеческое достоинство и высокий священнический сан". Это к тому, что президент Лукашенко единожды сказал "наш Филарет". Вы даже увидели у него при этом "пренебрежительно панибратскую ухмылку". А ведь, если снять черные очки, все совсем по-другому. Да, сказал неверно, надо было сказать "владыка Филарет", но человеку, знающему народный обычай современных верующих, и в голову не придет возмутиться по этому поводу: ведь в Церкви народ (особенно в деревне) говорит "Филарет приехал" и т.д. Это как "отец" — без титулов, просто, и царя на Руси называли просто "Царь-батюшка", говорим же и владыке Вселенной "Отче наш". Думается, и президент, не зная церковного этикета, сказал слышанное в народе и, почувствовав неуместность для него сказанного, смущенно улыбнулся. Вот и все. Естественно, что владыка Филарет как человек воспитанный и христианин не обратил внимания на эту оговорку. Ему вообще не свойственно превозношение. Кстати, Вы в своем письме понизили митрополита до сана епархиального епископа, написав "преосвященный" вместо "высокопреосвященный". Зато в другом месте Вы самовольно повысили владыку Филарета до сана патриарха, назвав его правление "патриаршеством". Но все это, конечно, не столь существенно.

Важнее другое — Ваше обвинение Белорусской Церкви и ее предстоятеля за лояльное отношение к властям, к главе государства президенту Лукашенко. Для Вас это немыслимое и губительное для Беларуси поведение. Вы даже решились поправить апостола Павла в его утверждении, что "всякая власть от Бога": де, мол, во времена апостольские, может, была и от Бога, а у нас-то — от диавола. Забыли даже, в какие страшные времена Римской империи с ее невероятно жестоким отношением к рабам и гонениями на христиан жил апостол! Ведь это его родина была лишена царя и независимости, а сам апостол был казнен за верность Христу. По Вашему разумению, даже безумные кровавые императоры Нерон и Диаклетиан были лучше белорусского президента. На такое можно ответить только словами апостола Павла: "Все мне позволительно, но не все полезно". Что касается Вашего отношения к самим словам апостола о власти как таковой, то здесь ярко проявилось нехристианское разумение сказанного. Ведь апостол исходил не из качественной оценки власти, а писал о необходимости законопослушания, о власти как блюстительнице порядка в обществе и государстве, предостерегая от гибельных для общества бунтов, анархии, преступлений, экстремизма. О повиновении властям он говорил христианам в конкретной обстановке, но и на все времена. Для верующих Господь Бог — источник гармонии, порядка во Вселенной, Вседержитель, по законам которого существует все в природе, и нарушение этих законов, неповиновение Законодателю было бы всеобщей катастрофой, как и отступление от нравственных заповедей для человечества. Утверждение "всякая власть от Бога" — это доминанта порядка, сдерживающая разрушительную стихию человеческих страстей. Есть и другой аспект библейского разумения: тяжкое бремя власти может быть и наказанием за грехи, за отступление от Бога, Его законов и попускается Богом для вразумления человечества: так попадал в Вавилонский и Египетский плен Израиль, так утвердилась безбожная власть в России. Власть — это не только итог выборов, борьбы человеческих страстей, это — реализация Божьего промысла. И Церковь всегда помнит об этом и изначально подчиняется в своих житейских делах власти государства, в котором находится, сохраняя при этом верность христианскому вероучению. Внутренне Церковь иерархична и всегда относится с уважением к институту государства, власти. Из этого надо и исходить, рассматривая роль и поведение Церкви в обществе и государстве, не навязывая ей функции противостояния в политической борьбе. Противостояние Церкви было и может быть только в стойком исповедывании веры во время гонений, в сохранении в чистоте христианского вероучения как основы духовной жизни народа и спасения человека для жизни вечной. Иное дело — защита Отечества и веры от вражеских нашествий. Здесь Православная Церковь всегда активна. Образцом патриотического и христианского подвижничества является упомянутый Вами патриарх Гермоген, только Вы ошиблись в примере: он обличал не законную власть, а узурпатора Лжедмитрия, бояр-изменников и иноземных захватчиков. Не уместна и ссылка на подвиг патриарха Тихона: да, он мужественно обличал кровавые деяния большевиков, развязавших гражданскую войну, удерживал христиан от братоубийственных столкновений и в условиях гонений на Церковь призывал к миру. Кощунственно сравнивать обстановку в России 20-х годов с нашей. Разве только для нагнетания страстей.

